## *Зайздрасць*

Вострая каса
Зайздрасці тупой,
Я не раз быў скошаны,
Подлая, табой.

Зноўку
хтосьці тупае
Па расе...

Як траву ні косіш,
А яна расце!



Вашы Штаты трасе
істэрыка,
Містэр Найт.
Хопіць маны.
Я рады
размове
наросцеж
з сынам Амерыкі.
Помню:
да нас прыязджалі
пасля вайны.

Мы вам
не дарылі ружаў,
Не прамаўлялі
прачулых слоў.
Можа, згадаеце
вёску Закружжа —
Над папялішчамі
клёкат буслоў?..

Счэзлі
ў полымі лютым
Буслянкі і хаты.
Крыжы і крыжы
ў ручніках.
Колькі магіл!
Сумных
і горкіх.
Пад чаборам і мятай.
Смутак у вырай
не вылеце
за небасхіл.

Мы
вашае мовы
не разумелі,
А падалася спагаднай,
як ваша рука.
То мова не тая,
якую пачуўшы,
нямелі,
Дзе кожнае слова —
як вырваная чака.

Праўда ж,
ваша далонь
была вельмі лагоднай,
Як цукеркі дарыла,
гладзіла па валасах.

Містэр,
шчыра скажу я сягоння:
У пашчах гарматных
Агонь яшчэ не ачах...

Пасклікайце
дзяцей сваіх,
унукаў сваіх
пасклікайце,
Няхай жонак сваіх
папрыводзяць сыны,—
Успомнім
давайце,
разам пройдзем
давайце
Па вёсцы маёй...
адразу пасля вайны.

### *На вогнішчах бяды*

Спыніўся лімузін
Ля плашчакоў сасновых.
Вас сустракаў
Максім
Ссівелы,
Стогадовы.

Пяць мужыкоў было
Вас у адной машыне.

Максім
на ўсё сяло
Адзін
як ёсць
мужчына.

Яму і выпаў лёс
Вітаць.
Па волі лёсу
Вам дзед Максім
паднёс
Хлеб-соль,
як мы ўсе,
босы.

Сабраліся жанкі
Ад тапароў
і косаў.
І мы ўсе,
рань-шпачкі,
На вас
глядзелі скоса.

Дзед ведаў,
што для нас
Вы пакавалі трумы,
Ды ўжо на трон у вас
Узлез
з кантычкай Трумэн,

Не на кані
з канём
Сваю паказваў
сілу,
А жудасным агнём
Ён знішчыў
Хірасіму!

Драпежна
пагражаў
І нам.
смяротным грыбам,
Нам —
шустрым мурашам
На спаленых сядзібах.

Не разумеў ён,
шыз,
Што нас не запалохаць,
Бо толькі што фашызм
Мы нішчылі
самохаць!

І вось
у гэты час,
Трывожны
і галодны,
З'явіліся вы ў нас...
Нібы на суд народны...

На вогнішча бяды,
Дзе і хлапчук —
араты,
Прывалаклі тады
Вы юнраўскія транты.

Як дзед ішоў вітаць,
Адзеты
не па модзе,
Мы вам хацелі даць,
Прабачце мне,
па мордзе,

Ды перад дзедам вы
Прыпалі на калена
І шапку з галавы
Знялі
зусім не лена,

Спагадна прынялі
Наш бохан
з асцюкамі.
Да бохана —
губамі
І дзеда абнялі,—

І нейкае цяпло
Да нас,
зусім нязвыкла,

Як бы ад вас
                цякло
(Ці мо да вас узнікла?).

Але
    не вам зусім
Мы білі ў ладкі
                з сілай.
Іх зарабіў
            Максім.
Яны былі —
                Максіму.

Бо ўсё-такі не вы
Прайшлі
            праз бездань гора.
Між берагоў Нявы
Не вашая «Аўрора».

На Волзе
            ў весні час
У нас
        радзіўся
                Ленін.
Свет ведае,
            ад нас
Да ўсіх
        ідзе
            збаўленне.

На картах жа —
                    пара
Прызнаць! —
Ты,
    край мой добры,
Падобны
            на зубра,
А не
      на лісцік
                дробны!..

Такі ў нас
              быў настрой.
Душы
        такая рыска:
За ўсё
          стаяць
                гарой,
Што міла нам
                   і блізка.

За ўсё
          стаяць
                як след,
Як у вайну
              стаялі,—
За свой
          і хлеб,
              і свет,

Задымлены
баямі...

І ў той час
заіржаў
Конь згаладалы,
слабы —
З прыпеўкамі
з імшар
Сыры мох
Везлі бабы:

— Не забудзе Беларусь
Тых дарог пракланых,
Дзе хадзілі па лясах
Хлопцы-партызаны...

А потым,
як сляза,
Пякуча
І балесне,
Па вастрыі
ляза
Ішла з аселіц
песня:

— Закаці, закаці
Ты, яснае сонейка,
Хоць за лес,

За лясок.
Ты прыйдзі да мяне,
Мой мілы дружочак,
Хоць на час,
На часок...

— Пайшлі,—
сказаў Максім,—
Паглядзім,
чым багаты.
Мы
голыя зусім,
На ўсё сяло —
ні хаты.

На вуліцы,
платы
Зламаўшы
з нецярпення,
Як на рацэ плыты,
Грудзілася бярвенне.

І кожан там кругляк,
З вяршынькі
і да донца,
Свяціўся
ясна так,
Бы ў ім
сядзела сонца.

А трошачкі наўзбоч,
Зусім жа недалёка,—
Ноч,
        папялішчаў ноч,
Хоць пальцам тні
                        у вока.

Агню і дыму жах
Яшчэ ўсё не забыўся,
Ды ўжо сасновы пах
Так гаспадарна
                    віўся!
Ярылася душа.
І,
  да прыгод ахвочы,
Вясновы ветру шал
Нёс
      попел горкі
                    ў вочы,

Яго і вам
            прынёс,
Хоць,
      можа,
            не чакалі.
І іскры
      вашых слёз
У сэрцы нам
            упалі...

Зямля,
ты
са святла,
І з дабрыні,
і ласкі,
Ды песняй
не была
І не была
Нам казкай!

На глыбіні
ў зямлі,
Матуляю сагрэты,
Мы спалі
і жылі
Усе
у тое лета.

Ды летам
не бяда,
Ды летам —
то ж маліна!
Во калі
к вам вада
Цячэ бесперапынна...

Ды і яна —
нішто,
Абвыкнешся з вадою.

Мярзотна
на ўсе сто
Спаць у зямлі
зімою.

Вясна нясе цяпло.
І пчолка ўжо лятае.
Але ж вясной сяло
Так моцна галадае.

Ратуе
шчаўем луг.
Ды не забыць ніколі:
Вясной
цягнулі плуг
Жанчыны
замест
коней.

Ой, муляў жа хамут...
Ой, не радзілі нівы...
Скажыце,
містэр,
тут
Што думалі
Тады вы?

Не вылезем
з бяды?

Не,
вылезем —
кроў з носа!
Нічога,
што гады
Прыйдзецца тупаць
босым!

Кабеты камлюкі
Пілою раскідалі
І неслі
плашчакі,
Дзе зрубы
ўжо світалі.

Не вынесуць?
З вайны
Хай выйшлі —
тут здадуцца?
Не,
вынесуць яны
Усё
і не сагнуцца!

Не змогуць да канца
Давесці ўсё
без хлеба?
Не,
змогуць!

Да вянца
апошняга.
Як трэба!

Ці помніце вы,
як,
Цалёўку асядлаўшы,
Яе стругалі ўсмак
Матулі —
ка́ні нашы?

Баран спяваў —
не выў,
Мелодыя лілася,
Аж паглядалі вы
На тую працу
ласа.

А стужка ўверх ішла
І пенілася пышна,
Як быццам расцвіла
І цвет
скідала вішня.

Баран нібыта сам
Насіўся
лева-права,—
І так карцела вам
За рогі
ўзяць барана!

І вы,
на дзіва нам,
Усселі лёгка,
лоўка
Ў бастонавых штанах
На смольную цалёўку.

У працу вы
без слоў
Ўчапіліся рукамі.
Але баран ішоў
Да вас,
як цяжкі камень.

А потым вы штаны
За ясенем
мянялі,
Бо ўсю смалу яны
На забедры
забралі.

Ды смеху не было,
Ніхто
не рэзнуў свістам,
Бо ведала сяло:
Што ж,
гэта,
браткі,
містэр...

Скажыце,
містэр,
мне,
Ці помніце
вы гэта?
І тое
па вайне
У смольных трэсках
лета?

Ці помніце,
як мы,
Пазбаўленыя школы,
Каменне,
бы грамы,
На звонкіх
везлі
колах

Пад новыя вуглы,
Пад новыя асновы,
Дзе зыркалі вуглі,
Нібы вачамі совы?

Ці ў сэрцы зберaглі
Вы наша «калі ласка»?
Ды й кропелькі ж былі
І, помніце,
кілбаска...

І песню заспяваць
Была тады
прычына.
Як абступілі
вас,
Ці помніце,
жанчыны?

Паверылі яны
Вам
па-сялянску,
шчыра,
Што вы
супроць
вайны,
Што вы
не супраць міру.

Ці помніце
вы іх?
Кляліся ж
сынам,
хлебам
Змагацца
з жыл усіх
За мір
пад родным небам.

## *Покліч Хатыні і скарга Сангмі*

Ёсць месца такое
У Беларусі,
З-за лесу
нябачнае
воку,
Дзе пабываў
кожны, мусіць,—
Зблізку ён
ці здалёку.

Там
нязвычныя хаты —
Гранітныя зрубы...
Там
дрыжаць,
нібы вінаватыя,
Губы...

Там
усё,
нібы ў нейкай замеці.
Слоў не чуваць
з вайны.
Там
размаўляюць
з памяццю
Званы...

Скаргі покліч
плыве над лясамі.
На мармуры —
тры бярозы.
Зірнеш —
коцяцца самі
Слёзы.

Песень ніхто не спявае.
Баян не зальецца.
Гэты помнік
спакой у сэрцы ўзрывае.
Хатынню завецца...

Я адтуль
з мяшэчкам зямлі
Быў аддадзен
вятрам дарогі.
Пабываў там,
дзе бітвы
такія прайшлі,
Што ледзь вынес
Захопнік ногі.

І сягоння згадаю —
нібыта грудзьмі
Дакрануся
да вугалля гарачага:
Мне Сапгмі зашчыміць,

Застагну я:
— Сангмі...
Душа па Сангмі
заплача...

Сангмі...
ў любові
людзі жылі там спрадвек.
Пад крылатымі пальмамі
нараджаліся дзеці.
Сангмі...—
пяцьсот чалавек.
Сяляне...
як і ўсе сяляне
на свеце.

Сяло,
што рыбак,
па калена стаяла ў вадзе,
Над рысам схілялася,
смакавала бананы.
Люд працавіты
не чапаў нікога,
нідзе,
У лотас бялюткі
Навек закаханы.

Дзень узнімаўся,
як вясло над ракой,

Птушкі спявалі
у голлі,
Калі ступіў
на зямлю Сангмі
з бандай сваёй
Лейтэнант Коллі...

А на досвітку
такія салодкія сны,
Як маліна каля дарогі.
А ў людцоў жа —
аніякай віны,
Ці не таму
спалі яны
без трывогі.
Хай бы гром папярэдзіў іх,
Хай бы бура павыганяла
З сонных хат
і малых,
і старых,
Пакуль пранясецца навала!..

Не стралялі —
ці таму,
што патроны ўсе выйшлі,
Ці таму,
Каб было цішэй,
Каб не пачуў
Усявышні,—

Цэлілі
бамбукам
і каменем
між вушэй...

А калі ўсіх
пабілі —
яшчэ і «пеўня»
пусцілі.
Зямля плакала
слязьмі крывавымі,
прасіла вады.
А яны —
фотаздымкі
на памяць
сабе і бацькам
рабілі,
Смехам,
як ватай,
спакойна
напхаўшы раты.

І раптам —
голас жаночы:
— Дзе мае дзеткі?..
Ай, ай!
Злавілі кабету,
Кінжалам
выпаралі вочы

І пусцілі:
бяжы
Сваіх шчанят пашукай...

Бегла яна...
упала,
як падстрэленая птушка.
Паўзла...
клубочкам кацілася...
рукамі хапала зямлю.
— Дзеткі мае дарагія...
Сыночкі мае...
дачушкі...
Як жа я вас люблю!
Як жа без вас
буду,
Як бяду перабуду,
Што мне
без вас рабіць?
Дзеткі мае,
адгукніцеся,
Крывіначкі,
засвяціцеся:

Ноч у вачах стаіць...
Ноч...
нібыта ў Хатыні.
Чорная,
як вуглі...

Слухай,
Амерыка,
выхваляешся
зліткамі залатымі,
А чаму ж за табою
такія сляды
па зямлі?!!

Пасля твайго тапара
Нашто і машыны,
Што розумам свецяцца,
Метрапóлітэн-оперá
І сляды
тваіх хлопцаў
на Месяцы?!!

## *Нашчадак містэра Найта*

А ці помніце
Горад Намдзінь?
Я пабыў у Намдзіні:
Васемнаццаць тысяч багінь
Ткуць шаўкі
для радзімы.

Тая фабрыка
ў садзе.
Вокны
павыбіваны.

І зенiткі
па строгай камандзе
З той пары захаваны...

Ты плыла
з далёкага берага,
І з табою —
Тупая сіла.
Што шукала ты там,
Амерыка,
Што,
Амерыка,
там згубіла?
Не згубіла
Нічога там —
Ты сябе загубіла.
Не чакала,
што сплаціць В'етнам
За магілу
магілай!

Пагля́дзі
на адну з дзяўчат —
Ззяе Зорка
Героя В'етнама.
На плячах —
аўтамат,
І каса —
на плячах таксама.

Горда,
        цвёрда
                красуня вядзе
Груганоў паланёных,
Каб на рысавым полі,
                        што ў барвянай вадзе,
Яны чулі
Зямлі праклёны!

Так пакорна ідуць,
Штосьці мямлюць
Былыя піраты.
А ў вушах
            у дзяўчыны
                            маторы...
                                маторы гудуць,
І ў сэрцы
            рвуцца снарады...

Лотас пяшчотны,
А сілы стае —
Прыгажуня й зенітчык вядомы:
Бачу,
    Амерыка,
Паламаныя крылы
                        і колы твае —
Скарабачаныя «Фантомы»!
Ну а побач —
                магілкі.

Цяжка ступаю.
Сэрца...
Сэрца аж стыне.
На курганкі рассыпаю
Зямлю Хатыні —

Быццам бор зашумеў,
Той,
што ў краі маім
партызанскім,
Сціснуў сэрца
напеў
Ціхай крыўды жаночай
і ласкі:

— Купалінка, купалінка,
Цёмная ночка,
Цёмная ночка,
Дзе ж твая дочка?

— Забярыце
ночку з вачэй...
Забярыце...
Мне дачушак...
сыночкаў...
хутчэй
Вярніце!
Папрыціхлі янкі —
цішэй вады.

Дзяўчына
замерла ў здзіўленні.
То нібы не яны —
Амерыка,
ты
Перад маці
кінулася
на калені...

А раней жа,
Калі дзяўчаты
Іх трапным агнём
зрывалі з нябёс,
Нібы дзеці,
раўлі яны,
асабліва адзін,
рыжаваты —
Найт,
Што дзесьці
ў Тэхасе рос.
— Найт — сказалі?
Я Найта знаў аднаго.
Не забуду з вайны ніколі.
Найт...
Так сустрэў я
сына яго.
Містэр,
яблычак
з вашага голля!..

Ён вярнуўся
дамоў,
Маршырує,
За чынам
хапае чын.
Пакуль што
з намі ваюе
На манеўрах
Ваш сын...

А ў нас
з вайны
найбліжэйшай
Дваццаць мільёнаў —
ляжыць.
Таму мусіў
сын мой мілейшы
Сцягам
баявым
служыць.

Яму дзядамі
падорана
Слава
ваенных дзён.
Браць на прыцэл
здорава
Умее
ворага ён!

Учора
вярнуўся дахаты —
Свае адслужыў дзве зімы.
Прывёз нам
добрае свята,
Якое чакалі
ўсе мы.

Аж пасвятлелі вячоркі,
Азёрны
сіні разліў,
Як бы і свае зоркі
На небе
сын прышпіліў!

Як быццам
і хвалі на рэчцы,
І хмарку
над родным сялом,
І жоўтыя
росныя дрэўцы
Сагрэў ён
сваім шынялём!..

Вы ж,
містэр,
сынам кляліся
Змагацца за мір
па зямлі.

Што,
      прыкідваліся лісам,
Хвастом папялішчы мялі?!.

Тады
Над чарнюткім
                    акрайцам
Няўжо вы хлусілі нам?
У сына свайго спытайце,
Чаму ён забыў В'етнам?

Усыпце бярозавай кашы,
Каб ледзьве панёс.
Вы ж бацька...
І ў руках вашых
Ягоны лёс...

Прыедзьце да нас,
І з вамі
Няхай
        прыязджае
                    сын.
Паслухаеце,
Як званамі
Душу
      барануе
                Хатынь...
Заявімся
          і ў Закружжа.

7*

Успомніце маладосць.
Надорацць вам людзі
ружаў.
І чарка —
ёсць.
Убачыце хаты,
Якіх тады не было.
Ох, і багатае
Сёння наша сяло,
Ды пачуеце,
часта
Б'юцца ў песнях звапы,
Бо і сёння
бабуля Наста
Чакае сыноў
з вайны.

Пра самае блізкае,
кроўнае
Скажа вам
Наша сяло,
Пра самае дарагое,
галоўнае —
Каб вайны не было!

...А за акіянам
істэрыка,
Шантаж
і разбой.

Пентагонаўская
Амерыка
Хвост узняла
трубой.

Крычыць
аб нашай пагрозе,
А нам
рыхтуе атамны вір.
Словы ажно
прабіраюць марозам
Пра рэчы,
важныя болей,
чым мір.

Гэта што —
нейтронныя боегалоўкі?
Гэта яны
там,
у вас,
важней?
Ну і прыдумала ж
лоўка!
І таму крычыш
штораз галасней?

Крычыш,
Амерыка,
бы хвост ушчаміла

(Пачакай,
ушчэміш,
калі так пажывеш!),
Крычыш
і цягнеш тое.
Што табе міла,
Дзвюмя рукамі адтуль,
дзе праклінаюць цябе,
грабеш!

Такое не можа й прысніцца,
Ды бачыш,
зварылі ж мазгі
Сказаць,
што граніцы Еўропы —
твае граніцы,
Берагі Еўропы —
твае берагі...

Сказаць можа
чалавек у агоніі
Ці чалавек,
стукнуты
пыльным мяшком,
Што на зямлі
усе акіяны —
ягоныя
І ўся ягоная нафта
Пад травяным кажухом.

А што яшчэ там,
у планах?
Спіш і сніш Еўропу
У громе атак?
А сама акіянам
Адгарадзілася,
так?
Божа, які тэатр!
Які несусветны наіў!
Ды гэта ўсё —
смеху варта,
Як бацька мой гаварыў.

Глупства з галоў сваіх
выкіньце!
Хай планы
закрэсліць рука!
Ды акіян жа
выкіпіць,
Як малако з кацялка,
Калі ўздымуць ракеты
Полымя да нябёс...

Страшна падумаць пра гэта.
Аж па целе мароз!

Па ўсёй зямлі
антываенныя мітынгі
Гудуць трывожна —

Планеты званы.
Хіба не чуеце?
Люд выступае
супраць крыважэрнай палітыкі,
Супраць
вайны.

Не ранеты —
ракеты вы росціце.
На граніцах,
На сэрцах —
таросамі лёд...

Містэр,
гавару я з вамі
наросцеж,
Каб пачуў мяне
За акіянам народ.



## *Зямля мая*

Зямля, ты такая вялікая,
Зямля, ты такая прасторная,
Што да акіяна да Ціхага
Не дойдзеш за год з мора Чорнага.

Не раз горкім дымам засланая,
Вякамі ты зналася з бедамі,
Але ж мы завёмся зямлянамі,
І лепшай планеты няма!

Ты нават у сэрцы не ўмесцішся
Лясамі з грыбамі, арэхамі,
Сваімі садамі пад месяцам,
Сваімі азёрамі, рэкамі.

Вялікая, светлая, росная,
Была неаднойчы знявечана,
Ды перад сучаснай пагрозаю
Здаешся маленькай, не вечнаю.

## *Давайце пазнаёмімся*

Колькі ў свеце цудоўных людзей,
Шчырых сэрцаў, прыгожых, натхнёных,
Колькі ў свеце харошых людзей,
Між сабою зусім незнаёмых.

Не пражыць без сяброў ані дня.
Так было, і заўсёды так будзе;
Каб на свеце была дабрыня —
Жыць у дружбе павінны ўсе людзі.

Рук сяброўскіх цяпло, як вясна,
Што душу асвятляе і грэе.
Хай жа светлага больш будзе ў нас,
Хай ад добрага свет падабрэе.

Давайце пазнаёмімся
Сягоння з вамі,
Няхай жа свет папоўніцца
Сябрамі.
Давайце пазнаёмімся,
Давайце пазнаёмімся,
Няхай жа свет папоўніцца
Сябрамі.

## *Чароўны край*

Чароўны край
Далёкага дзяцінства,
З любой дарогі да цябе бліжэй!
Звычайны месяц над тваёй хацінкай
Пярсцёнка залатога даражэй.

Мяне тут нават ліст вярбы крапае,
А як мне вечар салаўіны люб,
Што з туманоў кашулю апранае
І шчырай песняй адчыняе клуб...

Тут родны дом, навекі сэрцу мілы,
І вецер той, што дзьме у парус мой.
Тут нават бусел,
Ціха склаўшы крылы,
Вітаецца і гутарыць са мной...

## *Песня шчасця*

На лапках зор ідзе ноч над садамі,
А росы — як дзівосныя агні.
І вусны роднай песні прыпадаюць
Да гэтай найсвятлейшай чысціні.

У цішыні сны яблыкамі спеюць,
А яблыкі — як залатыя сны.
Зямля не спіць, а сэрцам колас грэе —
І ён, як зорка цёплая, звініць...

Хмурынка светлы месячык не засціць —
Яму яшчэ над рэчкай плыць і плыць...
І думаеш, якое гэта шчасце
Зямлю любіць і сынам яе быць!

Сцяжынка пахне хлебам і дзяцінствам,
Плыве уздоўж любімага сяла...
Дзень заўтрашні у сэрцы залаціцца,
Як на ўсё неба весняя зара!

## *Неба чыркае бліскавіцамі*

(Песня з тэлефільма
«Плач перапёлкі»)

Даль сасновая засмуцілася,
Зажурылася ўся смугой,
Хваля чорная пракацілася,
Адгукнулася ўміг слязой.

Над дубровамі, над крыніцамі
Птушка чулая не ляціць.

Неба чыркае бліскавіцамі —
Порах каб хутчэй запаліць.

Хаты к яблыням прытуліліся:
Не зарой гарыць небакрай.
Сэрцы шчырыя прытаіліся,
І прыціх лясны любы край.

## *Даўно ў той хаце не была*

Даўно ў той хаце не была,
Каля якой бярозаў шаты,
І месяц быццам вінаваты...
Даўно ў той хаце не была.

Даўно ў той хаце не была,
Дзе маці з вокнаў выглядае:
— Чаму ж яна не прыязджае?
Даўно ў той хаце не была.

Паспелі яблыкі ў садах
І, нібы зоры ў дрогкім небе,
Вісяць як быццам без патрэбы.
Паспелі яблыкі ў садах.

Даўно ў той хаце не была.
А каля хаты зжата поле,
І ў сэрцы шчасце смутным болем:
Даўно ў той хаце не была...

## *Музыка*

Я ў летні лес на золку не таму хаджу,
Што не магу уседзець без суніц.
Калі прыходжу ў лес, я чую музыку,
Якую не прыдумаць, не прысніць.

Расказвае яна ўсё і паказвае,
Нібы маё дзяцінства ажыло
І з цішыні ялін нясветлай казкаю
Яно у гэту музыку ўвайшло.

Што можа быць, чым лес,
Для стрэчы лепшае
І хто аддана гэтак прамаўчыць?
Нас прывяло сюды каханне першае,
І сёння яно музыкай гучыць.

## *Снежнае святло*

Ты гэта ці зусім не ты,
Адкуль, скажы,
І як з'явілася?
Ты гэта ці зусім не ты
Забылася і не забылася?

Ты гэта
Ці вятроў павеў,
Ці, можа, памяць разгуканая
І салаўіны той напеў...
Чаканая і нечаканая?

Была, была, была пара,
Кружыла нас агнём і ліўнямі,
Ды абляцела ўміг зара,
І ружу ты
У цемру кінула...

Ідзеш і ўспамінаеш час,
А з неба ні цяпла, ні месяца.
Як зоркі,
Слёзы на вачах,
Ды толькі штосьці яны не свецяцца.

## *Чаромха*

Чаромха расцвіла над ярам —
Аж вочы ломіць ад святла.
А ты са мной не пастаяла,
Упершыню ты уцякла.

Як быццам спела навальніца
Ці праляцела паўначы.
І ты баялася спазніцца
Ад навальніцы уцячы...

Галінку сонечную мая,
Як гронку зорную, ў руках
Няласкава ты патрымала
І моўчкі кінула на шлях.

## *Гаркаваты цвет*

Ах, свецяцца сады на ўсю ваколіцу —
Ад іх красы аж замірае свет.
Каханне да світання непакоіцца,
Спрабуе гаркаваты, чысты цвет.

Як зорка ў рэчку, ціха слова падае
У сэрца — і кругі, кругі, кругі...

Ні снегападам і ні цветападамі
Сцяжынак не завеяць дарагіх.

Ні цвет вішнёвы усміхнецца росамі —
А гэта маё шчасце са слязой,
Яшчэ і ў снах не зведаўшае восені,
Яшчэ не адбалелае вясной.

Як зорка ў рэчку, ціха слова падае
У сэрца — і кругі, кругі, кругі...
Ні снегападам і ні цветападамі
Сцяжынак не завеяць дарагіх.

## *На гарадской ускраіне*

На гарадской ускраіне,
Дзе быў нядаўна сад,
Як шампіньён, красуецца
Дзявочы інтэрнат.

Дзяўчаты — нібы вішанькі,
Ды сум у іх душы,
Бо хлопцаў — нікагусенькі,
Хоць на базар бяжы.

Ну да чыйго прытулішся
Сяброўскага пляча,
Калі б тут не пажарная
Пад бокам каланча.

Ой, каланча вясёлая,
Ой, хлопцы-дзецюкі,
Вы ж дома ўсе жанатыя,
А тут — халасцякі!

Суботнім цёплым вечарам,
Як птушкі б'юць у звонь,
З дзявочых вокнаў музыка
Шугае, як агонь,

А вочы... вочы іскрамі
Прывабліва мігцяць,—
І ўсе туды пажарнікі,
Як на пажар, ляцяць!

### *Зорка світання*

Былі сустрэчы і расстанні,
Аж кругам свет у галаве.
І не раса — сляза світання
Зіхцела золка на траве.

Плыў светлы шэпт з грудка чаромхі,
Як ручаёк, як ручаёк,
І маладзік — дзівак двухрогі —
К яму спускаўся незнарок.

І зорка з зоркай гаманіла,
Цвілі сады і верасы...
Ці не таму і сёння міла
Світае ў сэрцы жар слязы.

## *Дні прыгожыя*

Як цяжка нам сказаць упершыню «люблю»,
Нібыта пакідаць збіраешся зямлю,
І ветры ўздымуцца, адкуль — і сам не знаеш,
Ты задыхаешся і ўжо іскрынкай таеш.
І хмары наплылі, і зорак не відаць...
І што тады рабіць, і што тады казаць.

А дні прыгожыя нам зоркай яснай свецяць,
І шчаслівейшы ты на ўсім бялюткім свеце.
У яркай вышыні вачам прыемна сінь,
А ў сэрцы халадком
Гарачая вышынь.

Як цяжка ўпершыню парой нечаканай
На самай вышыні «бывай» сказаць каханню,
Спусціцца на зямлю, пакінуць зорны воз,
Зноў піць настой крыніц і гаркаватых лоз,
Надзеяцца, чакаць вясновых светлых дзён,
З усмешкай уздыхаць пад жоўтых лісцяў звон...

А дні прыгожыя нам зоркай яснай свецяць,
І шчаслівейшы ты на ўсім бялюткім свеце.
У яркай вышыні вачам прыемна сінь,
А ў сэрцы халадком гарачая вышынь.

## *А яна ўсё думае*

Салавей спявае
Звечара ў даліне.
— Выйдзі, выйдзі, дзеўчына,
Хоць бы на хвіліну.

— Не, і не падумаю.

— Я вазьму гармонік,
Полечку зайграю,
Выйдзі, выйдзі мілая,
Я ж цябе чакаю!

— Пачакай жа трошачкі.

— У расе халоднай
Занямеюць ножкі —
Дай жа данясу цябе
Я да той дарожкі?

— Не, ужо ж сама дайду.

— Вузенькая кладка
Над ракой глыбокай —
Галава закружыцца
У імгненне вока.

— Ну, перанясі тады.

— Перайшоў палову,
Трэба ж і другую.
Не змагу данесці
Ўпартую такую.

— Што ты, што ты, родненькі!

Не заўважыў нават,
Як зайшоў у грэчку.
А яна ўсё думае:
Пераходзім рэчку...

### *Паверце, дзеванькі*

Паверце, дзеванькі,
Паверце, мілыя падружанькі,
Няма у тым маёй, няма у тым маёй віны,
Што галава мая, што галава мая закружана
Зялёным полымем, зялёным полымем вясны.

Я, можа, толькі вінаватая,
Што прыпынілася на міг,
Што плыў туман і пахла мятаю
І ўся чаромха на дваіх.

Палалі вусны,
Ой, палалі вусны дзіўным полымем,
І я сама была, і я сама была вясной.
Падружкі любыя, падружкі любыя, запомніце:
Няма у тым віны, няма у тым віны маёй.

Я, можа, толькі вінаватая,
Што прыпынілася на міг,
Што плыў туман і пахла мятаю
І ўся чаромха на дваіх.

## *Ліўні светлыя*

Якая цішыня ў гаі,
Дзе ліўні прашумелі з ветрамі,—
І я п'янею ад вачэй тваіх,
Вачэй, што нібы ліўні светлыя.

І ад тваіх святлею слоў,
І разыходжуся са сцежкаю.
Я заваражаны тваёй красой,
Тваёй вясной, тваёй усмешкаю.

Як зараніцу, я лаўлю
Дыханне хмельнае, гарачае.
Я гэты ціхі гай люблю
І сэрца з ласкай нерастрачанай.

Іскрынка на тваіх губах,
Кранi яе — успыхне дзіўная,
І я гатовы на руках
Цябе панесці ўслед за ліўнямі,

Туды, дзе сіні бэз і май
І цэлы год маліна спелая,
Дзе непаўторным рэхам шэпча гай
Пра нашае з табой каханне светлае.

## *Вясковая красуня*

А блузачка ў палоску,
З вачэй глядзіць вясна.
На ўсю ты нашу вёску
Адна, адна.
І хлопцы зухавата
Ды за табой, табой,
Як пеўні, што ля хаты
Вось-вось учыняць бой.

Эх ты, Тася, Тася, Тася,
Ты агонь, ты і мароз.
Адкуль жа ты ўзялася,
Скажы мне, чый ты лёс?!

Сцяпан на скрыпцы грае,
Іван у бубен б'е,
Аж сэрца замірае,
Калі Антось пяе.
Не церпіцца Ігнаську
Такое адпаліць,
Каб цень пусціць на Ваську
І Сцёпку засланіць.

Эх ты, Тася, Тася, Тася,
Ты агонь, ты і мароз.
Адкуль жа ты ўзялася,
Скажы мне, чый ты лёс?!

Як Тася на вячорках
Пачне спяваць, скакаць,—
Злятаюць з неба зоркі,
А хлопцы аж гараць.
І не пяе салоўка,
І вецер не шуміць,
І Тася з хлопцаў лоўка
Вяроўкі можа віць.

Эх ты, Тася, Тася, Тася,
Ты агонь, ты і мароз.
Адкуль жа ты ўзялася,
Скажы мне, чый ты лёс?!

### *Было ж толькі лета*

Мяцеліцу лісця бярозы ўзнялі,
І жоўтае рэха плыве дацямна.
І думы лятуць, і лятуць жураўлі...
Было ж толькі лета — і лета няма.

Дзе колас шумеў — там іржэўнік стаіць,—
Няўжо гэта памяць жывая сама?
І боязна так на яе наступіць...
Было ж толькі лета,
Было ж толькі лета — і лета няма.

Здаецца, учора гукала вясна,
А дзе яна сёння, дзе сёння яна?
Ні ціхага рэха адтуль, ні пісьма.
Было ж толькі лета,
Было ж толькі лета,
Было ж толькі лета — і лета няма.

А хто вінаваты,
А хто вінаваты,
Што раннім марозам кранула зіма?
Захлёстваюць сэрца бязлітасна хвалі:
Было ж толькі лета — і лета няма.

### *Хаджу сунічнымі барамі*

Колькі ні гляджу, а не відаць
Той вясны далёкай і шчаслівай,
Што са мной ішла на сенажаць
І звінела ў сэрцы ціхай лірай.

Ды песенька мая яшчэ не спета,
Яшчэ ў маіх лугах пасецца лета.
Пакуль хаджу сунічнымі барамі —
Павек жыву пявучымі дарамі.

Ходзіць сонца па маіх шляхах,
Зоркі апякаюць мне далоні,
Бо не збілі кветак на лугах
Вараных гадоў ліхія коні.

І песенька мая яшчэ не спета,
Яшчэ ў маіх лугах пасецца лета.
Пакуль хаджу сунічнымі барамі —
Павек жыву пявучымі дарамі.

Я прашу: ну дайце, дайце мне
Права і такую, можа, сілу,
Каб адвесці той сумотны снег,
Што на шлях апусціцца няміла,

Бо песенька мая яшчэ не спета,
Яшчэ ў маіх лугах пасецца лета.
Пакуль хаджу сунічнымі барамі —
Павек жыву пявучымі дарамі.



## Змест

Карызна Ул.
К 27 Музыка ў свеце: Лірыка.— Мн.: Маст. літ., 1985.— 135 с.
50 к.

Зборнік складаецца з трох раздзелаў. У першым — вершы. Гэта роздум сучасніка пра свет, шчасце, бацькоўскую зямлю.

Другі раздзел — паэма «Размова наросцеж» — пра жыццё нашай пасляваеннай вёскі, пра Хатынь, В'етнам, дзе пабываў паэт. Паэма носіць яркі антываенны характар.

Трэці раздзел — вершы, якія пакладзены на музыку беларускімі кампазітарамі.

К $\frac{4702120200-023}{М302(05)-85}$ 61—85

ББК 84Бел7
Бел2

---

*Владимир Иванович Каризна*

***Музыка в свете***

**Лирика**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке
Рэдактар Р. М. Яўсееў. Мастак Я. І. Жылін. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар І. М. Паланейчык.
ІБ № 2130
Здадзена ў набор 12.06.84. Падп. да друку 11.11.84. АТ 00724. Фармат 60×90$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 4,25. Ум. фарб.-адб. 4,44. Ул.-выд. арк. 4,41. Тыраж 2400 экз. Зак. 486. Цана 50 к. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.